

18+

БЕЛАРУСКАЕ
ТУРЭМНАЕ
МАСТАЦТВА

БЕЛАРУСКАЯ
ТУРЭМНАЯ
ЛІТАРАТУРА

# АЛЕСЬ ПУШКІН
# ТУРЭМНЫ АЛЬБОМ



*Рэмбрант. «Блудны сын у карчме»*
*(«Аўтапартрэт з Саскіяй на каленях»)*



*«Аўтапартрэт*
*з трыма Саскіямі на каленях».*
*З адкрытых крыніцаў у інтэрнэце.*

БЕЛАРУСКАЕ ТУРЭМНАЕ МАСТАЦТВА

СЕРЫЯ
«БЕЛАРУСКАЯ ТУРЭМНАЯ ЛІТАРАТУРА»
заснаваная ў 2017 годзе
распрацаваная Праваабарончым цэнтрам «Вясна»

Пушкін, А.
Турэмны альбом / Алесь Пушкін. — Мінск, 2019. — 106 с. : іл. — (Серыя «Беларуская турэмная літаратура» ; вып. 7).

Турэмны альбом беларускага мастака-нонканфарміста складаецца з малюнкаў, зробленых Алесем Пушкіным падчас адбыцьця адміністрацыйнага арышту ў ізалятарах Смаргоні і Мінска за акцыі ўшанаваньня памяці 22-гадовага змагара антысавецкага супраціву Расьціслава Лапіцкага, расстралянага ўвосень 1950 г.

Неардынарная асоба мастака Алеся Пушкіна добра вядомая ў краіне і за яе межамі найперш эпатажнымі перформансамі яшчэ з часоў вучобы ў тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер Акадэмія мастацтваў) у Мінску. Свабода, незалежнасьць не толькі ў думках, але і ў дзеяннях — вось ягонае крэда. Першыя адміністрацыйныя «суткі» Алесь атрымаў у 1989 г. за заклікі прыйсьці на першыя «Дзяды». За перформанс, прымеркаваны да дня абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г., праведзены ў 1989 г. у адказ на забарону кіраўніцтва ВНУ зладзіць выставу, прысьвечаную БНР, па крымінальным артыкуле Алесь Пушкін быў асуджаны на 2 гады зьняволеньня ўмоўна. Наступная крыміналка праз 10 гадоў за вазок гною да будынка прэзідэнцкай адміністрацыі з надпісам «За пяцігадовую плённую працу» — такую падзяку мастак выказаў Лукашэнку ў дзень заканчэньня першых прэзідэнцкіх паўнамоцтваў 21 ліпеня 1999 г.

ВЯСНА
праваабарончы цэнтр



*Алесь Пушкін.*
*Фота Аляксея Мацюша.*
*1996*


Дзень турмы
25.09.2012 г
Смаргонская турма:
* 8 камер
* Прычым, у турме знаходзіліся і нашыя партрэты Р. Лапіцкага і Абраз Маці Божай "Адшуканьня загіблых" XIX ст
* Вось лёс мастацкіх твораў у Беларусі!!!
Карціны былі з 2 па 10.09 2012



У дзяжурцы вісіць ікона! Маці Божай
Прапаршчыкі – „аўганцы". Служылі ў мотастралках у Аўганістане.
Цяпер – ахоўваюць зэкаў.
шманаюць, – надзіраецелі, – мацаюць бамжоў, п'яніц, фуліганаў і інш.
— у тым ліку – і мяне ...увы!
Прапар
Юзік, католік


вентыляцыя
лямпа
(гарыць усе суткі)
відэакамера назірання
Камера N3
1,5 м – шырыня
3,5 м – даўжыня
уваход
WC
тумбачка
1
2
нары
вакно
план
t° ≈ 13°C
"кармушка" (есці браць)
"вочка" (глядзець)
Далі альбом, дзіцячыя алоўкі і фламастары!
Дзякуй Алесю Дзергачову!
Вада ~ 10 дзён
Пушкін
WC
шланг для вады
кубак пластык
Тумбачка
Нары драўляныя



Мары пра славу
і жанчын
Дзень другі –
26.09.2012
Love!
Love!
Love!
Love!
Love!
Love!
Love!
Love!
Love!

Дзень трэці!
27.09.2012

# Стравы, пра якія мару....

## №1 Мачанка з ржанымі блінцамі



## №2 Крывянка, тушоная ў печы



## №3 Калдуны



## 7. Карп запечаны з морквай і цытрынам (па-чэшску)



## 8. Курачка тушаная ў печы з бульбай



## 9. Піцца (рознае: рыба і ветчына)



№4 Смажаная свойская кілбаска з цыбуляй



№5 Яечня з скваркамі



№6 Качка, з печы, з яблыкамі



10. Касуля тушоная з маслікамі.



11. Шчупак фаршыраваны тушоны ў печы.



12. Бабка (і посная, з грыбамі, і з салам)




Суп з фрыкадэлькамі
Капуста з рабрынкай з печы
Суп гарохавы
Суп малочны з гарбузом
Жу́рэк (польскі)
Салянка (расейская)

Цыбульны суп (як у Вілейцы)



Поліўка, як на Дзяды, з кавалачкамі кілбасы



Боршч украінскі



Падкалотка з грыбамі (на Вігілію)



Цэпеліны з смятанай.



Бігас (польскі)



Дзень чацвёрты
28.09.2012

Начальнік Смаргонскай міліцыі, на маю просьбу, перайшоў на беларускую мову!
Першая маленькая Перамога!
Яшчэ большыя — наперадзе!

I'm speke only Belorussian! Do your understand me?

Беларуская мова — важнейшы чыннік!
Дзяржава да яе яшчэ прыйдзе, гэта непазбежна
Думаем і размаўляем па-беларуску?!
Ты — іншы, не маскаль!
У цябе — свой сьвет!!!



# Мае куміры.

Пра іх думалася ў турме...



Я — беларус. Мая жонка і дзеці — размаўляюць на роднай беларускай мове.
Мне хочацца, каб наша Беларусь была Беларускай!
Я з цяжкасцю дамогся, каб мае сыны вучыліся па-беларуску.
Я бачу скрозь засілле расейскага
Памяць бязвінна рэпрэсаваных змагароў за Беларусь, яе Незалежнасць — не ушаноўваецца, а тых, хто будзіць гэту памяць — ~~караюць~~ караюць вялізнымі штрафамі, суткамі у турме.
У краіне няма выбараў — ні мясцовых ні вышэйшых, вось ужо 18 год кіруе рэжым стаўленьніка Масквы, які знішчае беларускія ліцэі і школы, усе інстытуцыі, у краіне няма Універсітэта на беларускай мове, куды б маглі паступіць ~~мае~~ вучоцца мае дзеці....
Мае выставы — не дазваляюць. Гэтай вясной запланаваную персанальную выставу у Маладзечанскім калегуме мастацтваў імя М.К. Агінскага — сам жа дырэктар, што і прапаноўваў яе зрабіць — сам жа і адмяніў.
Мае праграмы — не прымаюцца.
Усе творчыя прапановы, што я зрабіў апошнім часам (лясніцтва, (Выбарч. Малочна-таварная ферма) — ~~адназначна~~ разглядаюцца, але не прымаюцца. ~~Творы, што выставы у Салонах — не купляюцца~~ А Суды караюць турмой.
Прычыну гэтага пераследу я бачу ў тым, што у краіне неасталінскі, бальшавіцкі рэжым [illegible] праводзіць [illegible] палітыку, заснаваную ад [illegible]

Данчук, Балаеб — Вос.

пятніца, 28 Верасня.

Увечары аддаў вартаўніку-прапаршчыку пакет зь яблыкамі чырвонымі, што перадаў Алесь Дзяргачоў разам з фламастарамі і паперай.

Загадаў: у камеры аддаваць іншым зняволеным, тым — хто просіць цыгарэту — даваць яблык чырвоны, прыгожы, апетытны !!!

Ён пагадзіўся — і аддаваў!



Пара, пара прагнаць Леніна з Беларусі...
Стоячы на нашых плошчах, ён стаў і ў галовах нашых
не даючы ім думаць незалежна, а застаўляючы іх думаць
камяніяльна... Ужо ж больш як 2 дзесяцігоддзі Беларусь
намінальна Суверэнная дзяржава! Трэба сваіх герояў ставіць!

ЛЕНІН — СЫХОДЗЬ!

Пазбавімся ад яго — пазбавімся і ад лунатызма!

LENIN – GO Home!




Гэта ўзнікла ідэя
28.09.2012г
у Смаргоні, у турме!

Прасіў, каб паклікалі на бяседу айца Анатолія, каб прынесьлі евангельле на беларускай мове... Не паслухаліся!

Дзень пятн, 29.09.2012г




Усаджвай усіх родных, думай з замілаваннем,...
Думай, Думай...
Сьветка
Яначка
Яшчэ 2 раза прысніў маму....
Ганна
Даша
Мікалка
Марылька
Я сплю — і сню сон — як мяне чакаюць



· Этима́сия ·

Престол, уготованый для меня Там...

Праект манумента
на месцы Аршанскай бітвы 1514
29.09.2012,
у Смаргоні, у турме, камера №3



= Рэстаўраваць росіс „Парнат“ 15 кастрычніка – 15 лістапада.

...Люблю дзядзьку Гінадзі...
А таксама Льва Николаевіча
и Фёдора Михайловіча,
Коласа цту...
Але! —
Пушкін ляжаў у
вытоках art-сацыяг-ракхі з тонкім
пэндзлем во рту!

Эпіграф:
„Пушкин лежал
у истоков
поэзии
с тонкой
травинкой
во рту...



А. Пушкин 29.IX

Дзень шосты.
Нядзеля
30.09.2012

Прыходзяць пахі!
Пачынаеш абвострана адчуваць усе пахі, нават з калідора і з-за кратаў!



Думалася пра Сяргея Ясеніна, пра яго любоўную лірыку, пра характэрны лёс рускага паэта...




Вось такое прыснілася мне сёння ўначы... Што гэта?
What is this?

Думаю пра Хосе Рыберу, Вермеера, Караваджо....

Успомнілася, што першае, найбольш нечаканае і моцнае пачуццё амаль фізічнай асалоды ад твора выяўленчага мастацтва я атрымаў у Дзяржаўным Эрмітажы, у 10-м класе, у 1982 годзе зімой (снежань) — ад разгляду твора Х. Рыберы „Зняцце з крыжа? Ці Палажэнне ў труну," дзе доўга разглядаў мінію святла і цені, пластыку рукі Мёртвага Хрыста, бядра, жывата....

З таго часу — амаль фізічная асалода ад разгляду такіх шэдэўраў! Караваджо, Рыбера, Рэмбрандт, Веласкес, Леанарда, Дзюрэр.... З рускіх — Куінджы, Рублёў, Левітан, з беларускіх: Хруцкі, Бялыніцкі-Біруля: „Блакітная капліца", партрэты Заранкі.

| Эрмітаж СПБ | Музэй Пушкіна Масква | Маўрыцхейс Гаага | Рэйксмузеўм Амстэрдам | Нац. Галерэя Прага | Музэй Чартарыйскіх, Кракаў |
|---|---|---|---|---|---|
| Х. Рыбера | Караваджо | Вермеер | Вермеер | Веласкес | „Дама з гарнастаем" |
| Леанарда | Ван Гог | „Дзяўчына з пярлінкай у вушах"!!! | Рэмбрандт | Дзюрэр | Леанарда. |
| Веласкес | Гаген | | „Начны дазор" | | |
| Рэмбрандт „Вяртанне блуднага сына) | Дзюрэр | | | | |
| | Галандцы | | | | |

Успомніўся геніяльны
беларускі паэта Анатоль Сыс....

Як я ўдзячны лёсу і Богу, што
ведаў яго...

Я думаў, вершы мае відушчыя...
Аж покуль — не асляпіў сам сябе
Ад маланкі, самім жа пушчанай...
. Я гарэў, як бязбожны храм...
... І тады я складаў малітву
Можа-ў сотым свой самасуд
Тэй малітвай, нібыта брытвай
Саскрабаў я ў адчаі бруд...
...........
І ў адчаі я рэзаў вочы...
І жагнаўся праўдай сваёй!

Верш „Перад Богам"
Зборнік „Сыс"
2001



Пра наш час:
Паэт сказаў:
„Пейма за Айчыну!
І кожны выпіў...
— За сябе.
„Паліў"
1987

Зараз, у нашыя часіны — проста ня можа быць такога паэты...
Вера ня тая... Цынізм...



Вільня! Вільня! Як я цябе люблю!...

# Цэнзура.

Дзень сёмы,
01. 10. 2012

Прапаршчык Юзік, скарыстаўшыся тым, што раніцай мяне вывелі на працэдуры (чысціць зубы, мыцца) прагледзіў падчас ранішняй праверкі ў камеры мой турэмны альбом — і пераступіў Статут, і выдраў з яго старонку, дзе быў намаляваны, як ён смажыць кілбасу свойскую з цыбуляй — гэта было ўчора, пах быў — я ледзь слінай не захлынуўся....

Гэта прамое парушэньне! Ён, лічы, скраў маю творчую працу — бяз майго веданьня! Сказаў — яшчэ намалюеш

Гэта нагадвае вобраз, асацыяцыю з СВАБОДАЙ ТВОРЧАСЬЦІ на БЕЛАРУСІ: завёўся мастачок нейкі, дасужы, усё сваё малюець — а ня тое, што скажуць — ну, дык — у турму яго, дадзім там дзіцячыя алоўкі і фламастары — няхай малюе сабе, цешыцца... А потым праверым яшчэ — што там намаляваў у альбомчыку?!! Што не спадабаецца нам — выдзерым — жопу падцерці!!!

Дзень восьмы,
02.10.2012

Думаю пра Даміяна Хёрста (Damian Herst) і Бэнксі (Banksy),
Сучаснае мастацтва Брытаніі...

„Чэрап з дыяментамі" – бадай самае значнае, на мой погляд, – што застанецца ад Хёрста... Астатняе – эпатаж, глыбіні асаблівай і няма ў тых акулах, карабях у фармаліне... (быў у PinchukArtCenter на яго выставе)

А вось Бэнксі – бунтар, вельмі глыбокі і наватарскі мастак!
Вельмі яго люблю і паважаю...

Вядома ж, турма робіць разумнейшымі... Думаеш пра ўсё, аналізуеш, узгадваеш і па-новаму, з іншых ракурсаў ізноў разглядаеш мінулыя падзеі, асоб, якіх давялося спаткаць на жыццёвым шляху – часам робіш нечаканыя высновы, многае становіцца ясным у адбыўшыхся падзеях, – усё гэта, калі цішыня (толькі брэх сабак, мацюкі канвойных і баландзёраў, гучнае бразганне жалезных дзвярэй камер і ўвахода) калі нічога не адцягвае тваю ўвагу (калі ты ў камеры адзін) – ніхто не назаляе размовамі сваімі і распытамі, ці „плаканнем у ~~[illegible]~~ камізэльку" „пажаліцца па душам", то усё гэта для творчага чалавека турма – 10 дзён – пост, засяроджанасць на думках, задумах творчых, – вельмі карысная штука!



Успомніў Нарвегію, Осла – Гавані, шхуны, лістапад....

Раніцай была навальніца, грымеў гром... Дзень дзевяты,
Так дзіўна — у кастрычніку — і навальніца! 03. 10. 2012

І я ў турэмнае, закратаванае акно — першы раз у жыцці — пачуў гром, навальніцу восеньскую...

Успомніўся выраз „рабінавая ноч"... Успомніўся Уладзімір Караткевіч, — як добра, што ён і пра маю раку Бобр, мост, пакінуў апісанне ў рамане „Нельга забыць!"



Штрыхі да
сённяшняга чалавека і
грамадзтва.

Чаму цяперашнія, 2012 года, чыноўнікі ад культуры, прэсы, увогуле — кіраўнікі любых формаў дзяржаўных, дык і прыватных (дазволеных, зарэгістраваных той жа таталітарнай дзяржавай) структур ставяцца на відавочныя „вострыя" праблемы нашага сучаснага жыцьця ?

Таму што чалавеку, які ўчора быў бедны, якога бацькі і ня сшылі іншамарку, толькі вопратку, мэблю, дачы прыгожыя, кавярні, рэстараны — вось яму, хто зведаў такое беднае савецкае дзяцінства — яму раптам дазволілі матываваць жыць (чыноўніку, ці „дазволенаму" бізнесмэну, якога „крышуе" ці КГБ, ці менты) — жыць у дастатку. Бо прынцып цяперашняга кіраваньня кадрамі ў лукашыстане — даць „кадру" поўнае „карыта" — няхай сёрбае, наесца, насёрбаецца, — а вось потым, калі яшчэ гэты „кадр" завязьне, як муха ў мёдзе — у гэтых дабротах, прывыкне ён і яго родныя, дзеці так жыць — вось тады яго трымаць за яйцы! Дык яшчэ кампрамату за час яго дзейнасьці насабіраць і заўсёды страшыць — турмой, судом, ці агласкай у СМІ цёмных бакоў яго жыцьця, паходжаньня, ці...

Тэкст.

Аналітычная запіска

Правядзенне першага партрэтнага пленэра памяці Расціслава Лапіцкага ў г. Смаргоні 27 - 2 верасня 2012 г. ярка выявіла наступныя рысы ў ~~сітуацыі~~ становішчы беларускага ~~[illegible]~~ грамадства:

1. Пасля разгрому апазіцыйных дэмакратычных сілаў - што адбылося пасля выбараў у снежні 2010 году наша грамадства засталася расколатым, застрашаным, стомленым ад змаганняў за дэмакратычныя, прававыя каштоўнасці, разрозненым і апатычным. Пры гэтым - гледзячы на вынікі суда над мастакамі, размоваў з дзяржчыноўнікамі (перапалохана-[illegible] асобы - ), цішыні ў дзяржаўных СМІ пра бязвінна рэпрэсаваных у 50х гадах беларусаў, якія змагаліся за Незалежнасць нашай дзяржавы, —

цяперашні рэжым Лукашэнкі застаецца спадкаемцам сталінскай палітыкі па знішчэнню і рэпрэсіям усяго беларускага, патрыятычнага, накіраванага на вызваленне ад каланіяльнага ярма Расеі.

Вельмі ярка гэта бачна у прыкладзе г. Смаргоні - асабліва ў месце здзей-

выхаванікі, менавіта — а тут беларускі мастак Ч. Сабіч так адзіўся!!!
Гэта сведчыць пра тое, што Ч. Сабіч (бацька яго — мент, брат родны зараз сядзіць у турме за забойства) — не вольны ў сваіх дзеяннях, канфармізм з-за палітычных прычын асабістага характару; бачна, што спецслужбы трымаюць яго за жабры! Не здзіўлюся, што цяпер, пасля гэтага рэзананснага ~~[illegible]~~ гэтай творчай акцыі — з яго боку будуць да мяне рэпрэсіі, каб выключыць з Саюза Мастакоў, ці як-то „супакоіць“, ці адмежавацца ад мастака-~~[illegible]~~ Пушкіна, сябра Віцебскай абласной арганізацыі Саюза Мастакоў Беларусі.
Магчыма рэакцыі кіраўніцтва ~~Віце~~ той жа Віцебскай абласной арганізацыі Саюза Мастакоў.

4. Паводзіны журналістаў, СМІ, дэмакратычных рухаў і структур.

Пытаньні: / Паняцце: журналісцкая здрада.

За месяц да гэтай творчай акцыі нагоды Р. Лапіцкага, мной былі апавешчаны: рэгіянальны карэспандэнт радыё FREE EUROPE, RADIO LIBERTY Міхась Карневіч, карэспандэнт БелСАТа Алена Барэль, журналістка Руху „За Сва-
С. Краўчук

запрашэнню — Сяргей Балай найбольш добра ўсё перадаў.
і Салідарнасьці, які А. Старкевіча. А 2 верасня

бо Упершыню момант самай характэрнай карціны выставы — мэблі: — відэазапіс затрымання. які, на шчасьце, зрабіў толькі міліцэйскі відэааператар, а судзьдзя гэтага Пятрова Л. Р. не аддала копію відэазапіса, што мы праглядалі на судзе 24. 09. 2012

вынята: А гэта б была магутнейшая карцінка на сайтах, TV і блогасферы — якая б характарызавала яскрава цяперашні рэжым і свабоду творчасці на Беларусі

Вывад: у наступны раз запрашаць надзейных, уласных знаёмых журналістаў і перадаваць тэлефаніць матэрыял і ў замежныя СМІ. ~~айчынныя СМІ, а за іх — няхай~~ ~~усе нашы перадрукоўваюць!!!~~

5. Самаахвярнасьць і патрыятызм мясцовых актывістаў: В. Вараніцы і Ул. Шульжыцкага, іх сем'яў і сяброў.

Толькі дзякуючы таму, што ініцыятыва на ўшанаванне Р. Лапіцкага, і памяці пра бязвінна закатаванага маладзёна, які марыў і змагаўся за Незалежную Беларусь — сыходзіла ад мясцовага творцы Валянціна Вараніцы, які і у папярэднія гады ставіў крыжы ў памяць Лапіцкага, зрабіў Крыжовую Дарогу Р. Лапіцкага, якую мясцовыя спецслужбы зьнішчылі, дзякуючы Ул. Шульжыцкаму, які [illegible] у рамі Р-

1978 ладзіць пленэры Лапіцкага,
пакуль не дабілася належнага
ўшанавання памяці ахвяр палітычных
рэпрэсій нашай роднай Беларусі у
выглядзе ці то: бюста, помніка, вуліцы
у імя яго, стварэння калекцыі твораў
прысвечаных гэтай асобе, што будуць
захоўвацца у Смаргонскім музеі.
~~Каб не было такога – у будучай~~
~~Незалежнай Рэспублікі Беларусь!~~
Разумеем адразу, што справа гэта
не зробіцца з наскоку, адразу –
хаця б на добры розум – Дзяржава
павінна б ініцыіраваць гэты пачын,
– Па ўсіх рэгіёнах, дзе ішлі масавыя
растрэлы, дзе былі турмы, дзе знікалі
людзі і былі іншыя формы палі-
тычных рэпрэсій – а яны ў кожным
раёне – ~~[illegible]~~ увекавечыць месцы памяці,
ушанавання гэтых ахвяр, як да
прыкладу – месцы загінуўшым у II
Сусветнай вайне ці палеглым воінам-афган-
цам, якія цяпер у кожным раёне.
А то ў Смаргоні ёсць помнік раённаму-міліцыя-
неру Іванову, што арыштоўваў Лапіцкага
і вуліца ў яго імя! А за ахвяр
памяці Лапіцкага – штрафы і арышты!!!
Вось дзе ты справядлівасць!?

пленэрай у Смаргоні.
А так — кожны год ладзіць выставы партрэтаў, шэсці, пікеты, збіраць подпісы, распаўсюджваць фільмы, брашуркі.

Калекцыя партрэтаў будзе расці, яны будуць у Смаргоні захоўвацца у В. Варанішча — таму проста кожны год прыязджаць і будзь пра жо памятаць — хадзіць з партрэтамі, да пабеднага фінала!
— паставіць ці бюст, ці помнік, ці назваць вуліцу, ці знак які яшчэ — напрыклад зала пастаяннай экспазіцыі ў музеі краязнаўчым.

Прыцягваць дзеля гэтага міжнародную грамадскасць, прэсу.
І калі дзяржава, улада зробяць што мы прапануем — гэта азначыць, што Беларусь стала дэмакратычнай, беларускай, цывілізаванай!

P.S. Улічваючы раз'яднанасць за 18 год рэжыма нашага грамадства, страх, засілле спецслужбаў, няверʼе, апатыю да якіх-небудзь дзеянняў, пасазрожнасць усіх і да ўсяго — я буду гэта рабіць нават адзін....
Бо няверʼе, расчараванасць, дэпрэсія, ... пасля выбараў 2010г дасягнулі нябачных маштабаў, таму я думаю, што і адзін чалавек хутчэй за ўсё, можа рабіць нешта пасільнае. Так хутчэй і будзе — адзіночкі і будуць нешта рабіць на Беларусі.

Сутнасць правядзення так вось,
звычайнага выставы, перфоманса,
іншае яшчэ абумоўлена і тым, што
пачаўшы тыдзь некалькі дзён у Ва-
ліна Варанішчы — пачаліся б інфільтра-
цыі ў нашу групу гэбія, (пад відам п'янтосаў) праваахоўнікі
б сталі прыходзіць, магчыма былі
б па п'яні якіясь канфлікты, разборкі —
і пленэр скончыўся б сумна —
ці рассварыліся, ці выставілі рэчы
нас зубілі, і не адбылося б друж-
нага выступлення. Таму лепей —
каб мастакі накалявалі свае творы
дома — і прыехалі ў Смаргонь
толькі для выставы і месца
да цяпер ужо ўсталяванага кры-
жа на ўскраі Смаргоні, каля Віліі.
Так і трэба рабіць надалей.
А разьехацца нарозніцу, дзяцем.

За рэпрэсаваных балюча таму, хто
сам быў рэпрэсаваны...

А. Пушкін.

# Арт-САЦЬЯГРАКХА

(першыя тэзісы)

Ёсць, ёсць выхад з няпростай сітуацыі на Беларусі, якая склалася за 18 год кіравання Рэжыма Лукашэнкі! Гэта — чыстае, выразнае культурнае змаганне пасіянарыяў, хто незадаволены склаўшайся задушлівай, антыбеларускай, неасавецкай, каланіяльнай ад Расеі палітыкі, якую жорстка і мэтанакіравана, паслядоўна праводзіць пануючы на Беларусі рэжым.

Народ у апатыі, у страху ~~народ~~ сыты, — свабода, беларуская мова, памяць пра рэпрэсаваных Гулагу і герояў за Незалежнасць яму не патрэбна.

А вось творчыя людзі — ім неабыякавыя такія паняцці — Душа, Памяць, Род, Гісторыя краіны і народа.

Сярод творчых людзей на Беларусі ёсць падзел — на канфармістаў і нонканфармістаў. Апошніх значна меньш — але яны могуць уплываць на развіццё нашага грамадства нават і ў такі няпросты час як цяперашні.

Першае і самае галоўнае: нешта канструктыўнае ініцыяваць! Праекты, фільмы, помнікі, фестывалі, канцэрты, выставы, перформансы — але ініцыяваць, прапанаваць, рабіць нават у адзіночку!

# АКРЭСЬЦІНСКІЯ НАТАТКІ

**запісаныя ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсьціна ў г. Мінску**

## 8 сьнежня 2012 г., субота

Я знаходжуся ўжо трэці дзень тут, у зьняволеньні.

Чаму? Хутчэй — у выніку нейкай імгненна хваравітай нервовай рэакцыі ўлады на публікацыі ў прэсе паводле майго паходу з партрэтам Р. Лапіцкага для падачы скаргі ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь на пастанову Смаргонскага і Гарадзенскага абласнога судоў ад 24 верасьня, калі мяне засудзілі на 10 сутак арышту, а астатнім мастакам — Г. Драздову, А. Цыркунову, В. Варанішчу і юнаку Ул. Шульжыцкаму — мільённыя штрафы за адзначэньне памяці Расьціслава Лапіцкага, 22-гадовага юнака, расстралянага ў 1950 годзе за антысавецкую дзейнасьць у Смаргонска-Вілейскім рэгіёне пасьля Другой сьвятовай вайны.

І вось, 4 сьнежня 2012 года я ў 8:30 выйшаў з каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка, што на вуліцы Макаёнка, 14, дзе я працую з 16 лістапада, і пайшоў на Ракаўскую, 16а, дзе забраў партрэт Р. Лапіцкага і падрыхтаваную скаргу ў Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь. У 9:45 я быў ля Мастацкага музэя Беларусі, дзе пачакаў журналістаў. Там нечакана сустрэўся з Ларысай Журавовіч, сваёй аднакласьніцай, зь якой вучыўся ў школе Ахрэмчыка. Яна жыве ў Бялынічах і з мужам прывезла карціны на экспертную камісію ў Дзяржаўны мастацкі музэй.

Увогуле, нейкая дзіўная тэндэнцыя канца 2012 году — сустракаць і па-добраму зноў сябраваць з даўно ўжо забытымі людзьмі, якія з табой вучыліся: Саша Казак, Аляксей Гаявы, вось Ларыса Журавовіч.

У 10 гадзін прыйшлі журналісты. Мы пайшлі да Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь. Я нёс партрэт, яны здымалі. Ля суда міліцыянеры папярэдзілі, што нельга здымаць і стаяць з партрэтам. Мы паслухаліся. Але ўжо на відэакамерах аховы відаць: мы «адбіліся», зафіксаваліся, бо калі я прышоў у прыёмную падаць скаргу, там ужо была жанчына-міліцыянт з аховай, якая запытала пра мой партрэт, ці сам я яго намаляваў. Я сказаў, што сам, і яна супакоілася. Паставіўшы партрэт Р. Лапіцкага ў прыёмнай, я падаў скаргу — не зарэгістравалі.

Я выйшаў і пайшоў з партрэтам да мастацкага музэя. Там даў тлумачэньне і каментары свайго ўчынку журналістам, разьвітаўся зь імі, занёс партрэт у майстэрню. Далей, наведаўшы Саюз дызайнераў, сфатаграфаваўшы стул у стылі «аграгламур», што не выставілі на выставе «Постулат» (19 красавіка — 3 лістапада гэтага года), пайшоў на працу па рэстаўрацыі росьпісу «Парнат», што я зрабіў у 1990 годзе.

Там правёў дзень за працай.

## 5 сьнежня 2012 г., серада

Пачаў працу ў 8:30–9:00. Гэта быў апошні дзень маёй працы: назаўтра, 6 сьнежня, здача адрэстаўраванай работы адміністрацыі каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка. І вось у 10:45–11:00 падышоў да мяне чалавек, быстры і жукаваты, і папярэдзіў, што я праз 5 хвілін буду арыштаваны міліцыяй, і параіў уцякаць. Я пасьмяяўся зь яго, потым папрасіў прадставіцца — хто ён такі і адкуль узяўся. Ён прадставіцца адмовіўся, сышоў…

Папярэдзіўшы Аляксея Арцюхова — выпускніка каледжа Ахрэмчыка, што мне дапамагаў па рэстаўрацыі росьпісу з 16 лістапада і які марыць паступіць на рэстаўрацыйнае аддзяленьне Акадэміі мстацтваў, — аб тым, што я, мажліва, буду арыштаваны неўзабаве, я даваў яму неабходныя загады на выпадак майго арышту і працягваў рэстаўраваць цэнтральную сцэну росьпісу.

Неўзабаве падышлі тры чалавекі, адзін зь іх — той, хто мяне папярэджваў, аказалася — камандзір групы АМАПа па маім затрыманні, лейтэнант міліцыі Яўген Нікіцёнак. Яны паказалі дакументы на маю просьбу і сказалі, што я затрыманы і трэба пайсьці ў Ленінскі райаддзел міліцыі г. Мінска.

Далі мне апрануцца, узяць пашпарт, пакінуць ключы ад пакоя, дзе я жыву, на вахце. Усё пад канвоем двух дужых амапаўцаў. Пасадзілі ў падехаўшы да каледжа мастацтваў на Макаёнка, 14 цёмна-сіні мікрааўтобус «фальксваген» з шторкамі на вокнах і адвезьлі ў Ленінскі РАУС, дзе я быў у 1999 годзе пасьля тачкі гною Лукашэнку. Там даставілі ў аддзел аховы грамадскага парадку, дзе сядзелі тры падпалкоўнікі: начальнік аддзела аховы грамадскага парадку Ленініскага раёна Альшэўскі Аляксандр Фёдаравіч, ягоны намесьнік Гутоўскі Іван Станіслававіч ды яшчэ адзін маўклівы падпалкоўнік, нейкі аналітык, прозьвішча не даведаўся.

Пачаўся допыт. Я прапанаваў на беларускай дзяржаўнай мове. Пасьля я раздумаў — яны пагадзіліся, бо я сказаў, што буду маўчаць і допыт не адбудзецца, а значыць — будзе ўсё незаконна. Падпалкоўнік Іван Станіслававіч Гутоўскі паказаў мне інтэрнэт-раздрукоўку «Хартыі’96» з паведамленьнем пра падачу маёй скаргі ў Вярхоўны Суд і пра тое, у якой форме яна была зроблена, і потым сказаў, што гэта менавіта ён склаў рапарт і праявіў ініцыятыву арыштаваць мяне і прыцягнуць як стваральніка несанкцыянаванага пікета да адказнасьці. Ён, як юрыст, бачыць, што я правапарушальнік.

І ён склаў гэту справу, даў ёй ход, павёз разам з участковым (маёрам) у Дом правасудзьдзя, і там судзьдзя Ленінскага раёна Запасьнік Марына Сьвятаславаўна судзіла на працягу 1,5 гадзіны. Я папрасіў яе размаўляць на беларускай мове — яна адмовіла. Я папрасіў мажлівасьці патэлефанаваць у праваабарончы цэнтр, каб мець адваката, — не дазволіла. Тэлефон быў у падпалкоўніка Гутоўскага Івана Станіслававіча. Праз 1,5 гадзіны зьявіўся рускамоўны адвакат Маслаў — я адхіліў яго. І судзьдзя сказала, што я наўмысна цягну працэс, адправіла з залы Маслава і тут жа аб’явіла мне 12 сутак арышту.

Дагэтуль копію пастановы суда я не маю.

І вось, у 21:00 я быў дастаўлены ў цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў і зьмешчаны ў камеру на 4-ы паверх.

Раздумваючы над тым, чаго амапавец Яўген Нікіцёнак прапанаваў мне ўцякаць зь места працы — з фае, дзе я рабіў рэстаўрацыйныя работы, прыходжу да высновы, што ім псіхалагічна было б лягчэй мяне арыштоўваць, калі б я, як заяц, бегаў (ага! значыць, вінаваты і сумленне нячыстае ў яго,

раз бегае!), ніж тое, што спакойна займаўся добрай, сьвятой справай — рэстаўраваў свой росьпіс у сваёй роднай школе! Ім было цяжка псіхалагічна — арыштоўваць мастака за працай. Лягчэй арыштоўваць нягодніка, які ўцякае ад іх, хаваецца. Бо ён падобны на нейкага злачынцу, раз уцякае! Вось такое тлумачэньне маё!

Канешне, асобная размова пра бадзёрага, маладога, культурнага, у адпрасаванай кашулі і пад гальштукам падпалкоўніка Гутоўскага Івана Станіслававіча, які падкрэсьліваў, што ён паляк, каталік, што ён на варце законнасьці і правапарадку, што гэта яго ініцыятыва — мяне арыштаваць і пакараць, падвесьці артыкул пад арганізацыю пікета. Маўляў, ён выконвае сваю працу сумленна і пільна, каб быў парадак, каб у нас была канстатацыя насамрэч прававой дзяржавы!..

Больш таго, прагноз на чэмпіянат сьвету па хакеі — 2014 будзе несуцяшальны: як і ў савецкія часы перад Алімпіядай-80, будуць арыштаваныя і інтэрніраваныя хто куды і па розных прычынах (пераходзіў вуліцу на чырвонае сьвятло, лаяўся матам, спраўляў патрэбу ў грамадскім месцы, ці як мяне — падашлюць вясковых крымінальнікаў і п’яніц па іконы нібыта) будуць ізаляваныя на час правядзення ЧМ па хакеі — 2014 усе, хто можа зрабіць які-небудзь выступ, махнуць бел-чырвона-белым сьцягам на трыбунах, стаць з партрэтам зьніклых і г. д.

Гэта будзе. І, як і ў Баку, падчас правядзеньня Інтэрvizion-2012, будзе шмат арыштаваных на гэты час, бо беларускі рэжым капіруе мадэль Гейдаравых, Кадыравых.

Вось якую выснову я вынес з перабываньня ў аддзеле прафілактыкі супрацьпраўных выступленьняў аддзела аховы грамадскага парадку Ленінскага РАУС г. Мінска, дзе я быў і ўсё чуў 5 сьнежня 2012 года з 11:45–12:00 да 17:30.

## 13 сьнежня 2012 г., чацьвер

Цудоўны прыклад, цікавы выпадак, што спазнаў у зьняволеньні, дзе апроч алкаголікаў, зладзеяў, якія крадуць гарэлку ды сьпіртовыя напоі з універсамаў, ці былых крымінальнікаў, што да гэтага шмат сядзелі па розных турмах Беларусі, нічога больш цікавага…

Дык вось: Юхневіч Аляксандр Юр’евіч, 53 гады, з 17 год жыве ў г. Мінску, працуе ў дадзены момант на кінастудыі «Беларусьфільм», праўда, кім — ня ведаю. Усё далейшае зь яго словаў.

Маці — сібірачка, бацька — караім, палкоўнік КДБ, былы выкладчык Мінскай школы КДБ, загадчык кафедры па вярбоўцы агентаў зьнешняй разьведкі, цяпер пеньсіянэр. Яшчэ бацька быў падчас Алімпіяды-80 у Маскве па ахове Алімпіяды, ды і заслужыў там грамату самога Ю. А. Андропава, чым ганарыцца. Цяпер пеньсія яго амаль 9 мільёнаў.

Але сам Аляксандр Юр’евіч быў прызваны на тэрміновую вайсковую службу ў Віцебскую дывізію ў ДШБ, а ў 80-м годзе накіраваны ў ДРА — Баграм, Кабул. Нібыта і быў паранены, і ордэны, медалі мае… І хварэў там на дызэнтэрыю і гепатыт.

Вярнуўся, атрымаў ад ваенкамата кватэру на Я. Коласа, у раёне вуліцы Бялінскага. Потым карыстаўся льготамі: купіў відэамагнітафон, для мамы швейную машынку Падольскую і тэлевізар яшчэ ці што там. Працаваў на заводзе Вавілава ў сакрэтнай частцы, дзе рабілі прычэпы для танкаў. Ездзіў па ўсім былым СССР, дзе гэтыя танкавыя прычэпы ставілі — ці то суправаджаў, як спецслужбіст, гэтых спецыялістаў, што іх наладжвалі, ці то сам нешта там зь імі рабіў, ці то сам пастаўляў…

У канцы 80-х пайшоў у кааператары: ля кінатэатра «Октябрь» была кінавідэастудыя, дзе ён фатаграфаваў хуткія фоты, вясельлі і г. д. Потым адчыніў вытворчасьць сілікатных блокаў, меў лазьню на вуліцы Мініна на дровах, меў ліцэнзію на продаж піва і алкаголю ў буфеце лазьні, але нешта, як ён казаў, дужа шмат падаткаў было. Кінуў, паехаў у Піцер. Там першым рыбу ў вакуумнай абгортцы прадаваў, антыквар'ят — але чатыры месяцы ў «Крестах», судзімасьць і там, і тут, у Беларусі… Бывалы, карацей!

Рознабакова эрудаваны, ветлівы, спакойны, капітан запасу, ціхі, сімпатычны, любіць сабак, дзьве дачкі, жонка…

Сеў на 10 сутак, а жонка — на 5, за тое, што разам зь сябрамі нібыта выпівалі і міліцыянта, які іх спрабаваў арыштаваць за распіцьцё ў недазволеным, грамадскім, месцы, ударыў у твар, а жонка на судзьдзю акрысілася.

Усё б нічога — цікавая, багатая біяграфія на зломе эпох: СССР, Перабудова, Рэспубліка Беларусь… Ды на сёмы дзень, калі мы сядзелі, усё ж зь нянавісьцю да беларушчыны, да маёй упартай беларускай пазіцыі і мовы спытаў, чаго я не паважаю яго і размаўляю ўпарта зь ім на беларускай мове. Гэта было прамоўлена з пачуцьцём нейкага імперскага «превосходства» біяграфіі, таты і сваёй рускасьці… Дарма, што 35 год пражыта ў Беларусі, — ён застаўся імперцам…

Пасьля маіх слоў, што ўжо гэта аб'ектыўная рэальнасьць — вось я такі, тут, зараз і ў камеры зь ім, што мяне толькі забіць можна і што гэта мая краіна, замоўк, і мы зь ім больш амаль не размаўлялі…

Вось сынкі тых кадэбістаў, якія доўгія дзесяцігодзьдзі гаспадараць і зараз на нашай зямлі, наш народ іх корміць ды поіць, яны не мяняюцца. Хаця мяняюцца: дэградуюць!

А мы — мацнеем, становімся больш і больш суверэннымі і ад іх не залежнымі!!!

## 16 сьнежня 2012 г., нядзеля

Перадапошні дзень майго зьняволеньня. Прачытаў некаторыя артыкулы з кнігі Т. Габрусь «Паэзія архітэктуры» (2012).

Захапіў артыкул пра Пятра Бараноўскага, архітэктара-рэстаўратара, «Апантаны архітэктурнай археалогіяй». Проста ўразіў гэты чалавек, які так любіў, так змагаўся за хараство, за вялікія помнікі, уразіла яго сьціпласьць, яго прынцыповасьць, нязломнасьць у сваёй справе і настойлівасьць. Выдатны прыклад жыцьця!

У артыкуле пра Язэпа Драздовіча шмат суб'ектыўнага, прывязанага да астралёгіі, але цікавая цытата зь дзёньніка Я. Драздовіча: «Не хваліся тым, што ты багат, ані тым, што ты бедзен…

Не цьвярдзі таго, за што ты не можаш прысягнуць у імя чыстаты сваёй совесьці. Не прыкланяйся і не пагарджай».

Як правільна! Ну хіба гэта ня ведаў Аляксей Антонавіч Марачкін, часты ўдзельнік пленэраў Язэпа Драздовіча, калі агітаваў і быў у камандзе Андрэя Саньнікава?.. Дзе цяпер Саньнікаў?! А Аляксею Марачкіну жыць з намі на Беларусі.

Вось цяпер — недалюбліваюць тэрмін «Беларусь», марацць аднаўляць Літву, зь лёгкасьцю перакрэсьліўшы і гатовы забыцца на 94 гады палітычна незалежнай і амаль рэальнай назвы і перыяду гісторыі нашай кволай Незалежнасьці з усімі яе плюсамі і мінусамі… Плён пяці пакаленьняў, страшэнных намаганьняў, войн і будоўлі — вось перакрэсьліць, бо нейкія там зараз «разумнікі» ўвялі ў галовы няхай сабе і стройны тэарэтычны праект «Літва», «Ліцьвінскі». І гэта на поўным сур'ёзе прапаноўваецца ажыцьцявіць! Бо, маўляў, назва Беларусь — вось гэта наша асноўная няўдача і бяда!

Можа, гэта бясконцая наша тэндэнцыя — разьяднаць нас яшчэ на больш дробныя групоўкі, каб кіраваць, кіраваць бясконца, а мы будзем драбнець: «Ліцьвінскі народны фронт», «Ліцьвінскі саюз мастакоў», «Ліцьвінскі саюз пісьменьнікаў», «Рада інтэлігенцыі Літвы»…

Уявіце?!

Сумна, сумна ўяўляць!

## У турме

Збольшага тут, у турме, сядзяць алкаголікі, наркаманы, крадзяжнікі алкаголю з крамаў, бамжы ды фуліганы, за бойкі ці сямейныя сваркі. З такіх за гэты час было:

алкаголікі, наркаманы — 5,
крадзяжнікі крамаў — 4,
фуліганы — 3,
бомж — 1.
І яшчэ: нелегальны мігрант — афганец Кабір Ахмет,
палітычны — Пушкін.

У турме дзень на трэці-чацьвёрты пачынаюцца сярод зьняволеных шчырыя адкрыцьці — і можна шмат даведацца пра іх жыцьцё, злачынствы, характар. Таму адназначна, несумнеўна, павінны быць «стукач», «сексот» у камерах, асабліва сьледчага ізалятара ці такой турмы, у якой і «сутачнікі», і «падсьледныя» знаходзяцца разам у камеры, уперамешку. І гэтых «стукачоў» цяжка распазнаць, настолькі яны з «народа»…

## 17 сьнежня 2012 г., апошні дзень зьняволеньня

Наслухаўся расповедаў ад будаўніка Сашкі Нікітко пра Маскву, пра «падставы» розныя, што зь ім здараліся…

Вынікі.

За час зьняволеньня прыйшло усьвядомленьне, што асоба Р. Лапіцкага, памяць бязьвінна рэпрэсаваных вельмі раздражняе цяперашнюю ўладу. Гэта бачна, як зрэагавалі на тое, што я стаяў ля Вярхоўнага Суда.

Значыць, у гэтым чыне — стаяньні за ўмацаваньне памяці рэпрэсаваных патрыётаў Беларусі — ёсьць Справядлівасьць і глыбіня! Варта гэта працягваць — гэта актуальна!

Актуальна ў тым хоць бы, што рыхтуюцца новыя рэпрэсіі. Яны ня спыняцца: канцэпцыя дзяржавы — «Мы можам рэпрэсаваць і заўтра колькі заўзгодна тысяч, вінных, нявінных, бяз розніцы» — застаецца.

Рыхтуюцца зачысткі да чэмпіянату сьвету па хакеі 2014 года, які будзе ў Мінску. Як перад Алімпіядай-80 у Маскве. Усіх, хто здольны выйсьці, махнуць бел-чырвона-белым сьцягам, стаць з партрэтамі зьніклых ці рэпрэсаваных, будуць прэвентыўна караць — на «суткі», выселяць у ЛПП, за Мінск, за месцы, дзе будуць хадзіць іншаземцы, — пад выдуманымі падставамі: пераходзіў вуліцу на чырвонае сьвятло, лаяўся расейскім матам, спраўляў патрэбу ў грамадскім месцы і г. д.

Вось так заходнія краіны, даючы мажлівасьць прымаць чэмпіянат сьвету па хакеі, умацоўваюць дыктатуру і рэпрэсіі на Беларусі.

Пазнаёміўся з добрым будаўніком. Сашка Нікітко.

Скарэктаваў творчыя планы. Серыя «Малюнкі ў турмах».

Сёньня ж працаваў у Рэспубліканскім каледжы мастацтваў імя Ахрэмчыка над рэстаўрацыяй росьпісу «Парнат», 1990 год.

12. 12. 2012 г.

Вялікі дзякуй Валерыі Чарнамордзікавай за кнігу з серыі «Беларускі кнігазбор» кс. А. Станкевіча.

Цудоўнае ўкладанне і прадмова Ул. Канана — доктара філасофскіх навук!

Як добра, што меў магчымасць усвядоміць гэта ўсё! Трэба быць удзячным Богу за гэту магчымасць — бо так, у сваім штодзённым жыцці я б наўрад ці мог адчуць і пачытаць гэта...

Асабліва у канцы манаграфіі — выслоўе Св. Клімента: «— У сумневах — свабода, у патрэбнасцях — еднасць, ува ўсім — любоў!»

Гэтым трэба карыстацца у сваіх дзейных стасунках з Андрэем Алехновічам...

Якая важнейшая выснова з учарашняга гэтага вызвалення — не прымушаць сына! Не даўлець над ім сваёй Воляй!

Са ўсяго шырокага свету ведаў — ён выбірае любімае, можа Бог над ім будзе спрыяць і яго захопленні перайсці у сур'ёзную справу жыцця...

Бо на прыкладзе вось аднаго вызваленага Уладзіміра, бацька якога татарын — я даведаўся што можа быць, калі чыніць гвалт над сынам.

Сёння перавялі у іншую камеру.

Сустрэў там афганца Кабіра, сына Мухаммада, з Кабула, былога салдата Бабрака Кармалеўскай народна-дэмакратычнай арміі. Быў вадзіцелем, вазіў камандзіра. Прыхільнікі СССР, праціўнікі Ахмад Шах Масуд, Гульбуддзін Хекматіяр — і ён вымушаны бегчы, і вось ужо 15 год у Расіі, цяпер з пяццю дзецьмі — 3 дачкі і 2 сына. Вырашыў ехаць у Беларусь у UNICEF, бо паводле ААН з 5 дзецьмі. Аддаў 6 тыс. долараў каб прыехаць у Мінск і яго б туды даставілі ў штаб-кватэру UNICEF.

Але абманулі, грошы аддаў — а не даставілі. І вось турму — у адну камеру, дзіця 4х месяцаў забралі ад грудзі, яго — у другую камеру. Ён гэта сказаў — дзе яго сям'я я даведаўся падчас прагулкі на паветры.

Вось і афганец Кабір (у перакладзе — Вялікі, у сэнсе — велічны, ~~на~~ як ім казаў Кабір Ленін)

ПРОТОКОЛ
личного досмотра

«05» 12 2012 г. г. Минск.

Пом. деж. милиции Ленинского РУВД г. Минска
с-т милиции Волк В.А.
в присутствии : 1) [illegible]

2) Гутовский И.С.

произвел досмотр гр-на (ки) Пушкин А.И.
в ходе досмотра обнаружено и изъято на хранение:

1) паспорт, очки, наушники,
2) две пары, 20 т.р. руб.,
3) моб. „Нокиа" пояс рулетка,
4) насадка, часы наручные
5) „FAVORIT", билет „Собрание мас-
6) таков", свидетельство
7) о праве на льготы, копия протокола,

Составил : [signature]

Понятые: 1) [signature]

2)

задержанный [signature]

вещи получил (ла) 17.XII-2012

[signature]

Оперативно-дежурная служба
Ленинского РУВД г. Минска
«05» 12 2012 года
И.Д.ОДС ______ (______)

---

ЦЕНТР ИЗОЛЯЦИИ ПРАВОНАРУШИТЕЛЕЙ
ГУВД МИНСКОГО ГОРИСПОЛКОМА

**СПРАВКА**

Пушкин Александр Николаевич
(фамилия, имя, отчество)

с «05» декабря 2012 г. по «12» декабря 2012
содержался(ась) в ЦИП ГУВД Мингорисполкома
(наименование специального учреждения)

Основание освобождения по истечении срока административного ареста

Зам. Начальника ЦИП ГУВД Мингорисполкома
[signature]
майор милиции
Э.С. Апанасевич
«12» декабря 2012

ГУ «ПЦ МВД» Зак. 1522 Тир. 7000

## СЧЕТ № 2192
**на возмещение расходов на питание административно арестованного**

Центр изоляции правонарушителей ГУВД Мингорисполкома, город Минск, 1-й пер. Окрестина, д.36

Фамилия **Пушкин** Имя **Александр**
Отчество **Николаевич** Год рождения **1965**
Место рождения **гп Бобр, Крупский р-н, Минская область**
Место жительства, адрес
**Минская область, Крупский р-н, гп Бобр, ул. Горная, 4**
Место работы
**Витебская областная организация союза художников Беларуси**
Личный номер **3060865B007PB8**
Паспорт
**МС № 2111952 выдан Крупским РОВД Минской области 07.04.2010г.**

В соответствии с частью 2 статьи 18.6 Процессуально-исполнительного кодекса Республики Беларусь об административных правонарушениях
Вам предлагается уплатить **550 000 (пятьсот пятьдесят тысяч)** ≈ 55 €
(сумма цифрами и прописью)

рублей за питание в ЦИП ГУВД Мингорисполкома за время отбывания административного ареста

с « 05 » 12 2012 г. по « 17 » 12 2012 г.

Деньги необходимо внести на расчетный счет № 3603900417019, отделение 539 ОАО «Белинвестбанк» (БИК 153100739), код 739, УНП 100582346.

При неуплате в месячный срок задолженность взыскивается в принудительном порядке.

Начальник ЦИП
ГУВД Мингорисполкома ________ И.Ю. Соколовский
(подпись)

**М.П.**

**Счет получил** ________ Пушкін А. М.
(подпись) (инициалы, фамилия)

с « 17 » снежня 2012 г.

---

ОАО "АСБ Беларусбанк"
отделение №610/67
ЦБУ 610\67 филиала 612
ОАО "АСБ БЕЛАРУСБАНК"
Зав.N ККС 16450
Р/счет 3603001330031
Платежи ФИЗ.ЛИЦ за услуги на счета ЮР.ЛИЦ
Сумма BYR 500000=
26/10/2012 13:49:45
Кассовый чек N 05451
DC5B62E7850EB691

КВИТАНЦИЯ
Кассир ______ /код: 400 М.П

ОТДЕЛ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ СМОРГОНСКОГО РАЙИСПОЛКОМА
(получатель платежа)
Г.СМОРГОНЬ,ФИЛИАЛ N423 ОАО "АСБ БЕЛАРУСБАНК"
(наименование банка) МФО 152101504
Счет получателя 3603001330031 Лицевой счет
УНП:511111111
ПУШКІН АЛЯКСАНДР МІКАЛАЕВІЧ
ГП БОБР ВУЛ ГОРНАЯ Д 4
(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | Дата | Сумма |
|---|---|---|
| Платежи ФИЗ.ЛИЦ за услуги на счета ЮР.ЛИЦ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ АРЫШТ | 26/10/2012 | 500000= BYR |

рубль РБ Пеня 0=
Всего 500000= BYR

Плательщик ________

«копия»

СЧЕТ № 571
о возмещение расходов на питание административно арестованного

Сморгонский РОВД
231000 г. Сморгонь ул. Гастелло 42 03 10 2012 г.

Фамилия, собственное имя, отчество должника Пушкин Александр Николаевич

число, месяц, год место рождения 01. 01. 1965 г.
Место жительства Минская обл. Крупский р-н, г Бобр ул Горная 4
Место работы Союз Художников Беларуси, Витебское отделение
В соответствии с частью 2 ст.18.6 Процессуально – исполнительного кодекса Республики Беларусь об административных правонарушениях Вам предлагается уплатить 500.000 (пятьсот тысяч) ≈ 50 € рублей за питание в ИВС Сморгонского РОВД за время отбывания административного ареста с 24.09.2012 по 03.10.2012 г.

Деньги необходимо внести на расчетный счет отдела внутренних дел Сморгонского райисполкома №3603001330031 в филиале №423 АСБ «Беларусьбанка» г. Сморгонь код. 504 УПН 500050254. Перечисления в любом филиале АСБ «Беларусьбанк». Копию квитанции об уплате денежных средств предоставить в ИВС Сморгонского РОВД.

**<u>При неуплате в месячный срок задолженность взыскивается в принудительном порядке.</u>**

Начальник Сморгонского РОВД В.К. Строчинский

Копию счета получил ________ Пушкін А.М.
(подпись) (инициалы, фамилия)

# АРТ-САЦЬЯГРАХА

## *(першыя тэзісы)*

Ёсьць, ёсьць выхад зь няпростай сітуацыі на Беларусі, якая склалася за 18 год кіраваньня рэжыму Лукашэнкі! Гэта чыннае, адраджэнскае культурнае змаганьне пасіянарыяў, хто незадаволены задушлівай антыбеларускай, неасавецкай, каланіяльнай ад Расеі палітыкай, якую жорстка, мэтанакіравана і пасьлядоўна праводзіць пануючы на Беларусі рэжым.

Народ у апатыі, у страху, народ сыты — свабода, беларуская мова, памяць пра рэпрэсаваных у ГУЛАГу і герояў за Незалежнасьць яму не патрэбна.

А вось творчыя людзі — ім неабыякавыя такія паняцьці: Душа, Памяць, Род, Гісторыя краіны і народа.

Сярод творчых людзей на Беларусі ёсьць падзел — на канфармістаў і нонканфармістаў. Апошніх значна менш — але яны могуць уплываць на разьвіцьцё нашага грамадства нават і ў такі няпросты час, як цяперашні.

Першае і самае галоўнае: нешта канструктыўнае ініцыяваць! Праекты, фільмы, помнікі, фестывалі, канцэрты, выставы, перформансы — але ініцыяваць, прапаноўваць, рабіць нават у адзіночку!

Другое: ня бойцеся! Гэта арт, гэта мастацтва, яно не разбурае масты, не гінуць людзі. Мы эксьпэрыментуем! **Ня бойцеся!!!** Страх — аснова сістэмы цяперашняй, страх — д’ябал, Бог — сьмеласьць, чысьціня сэрцаў і **Праўда!!!**

Трэцяе: як данесьці гэты пасыл да лепшага?

Трэба заўважыць, што за 18 год рэжыму склалася цэлая сістэма нібыта яму апазіцыйных, але насамрэч жывучых у сімбіёзе зь ім структур. Таму спадзяваньне ў шчырасьці іх, што яны за Свабоду, Дэмакратыю etc., — марныя, яны могуць пакаленьне за пакаленьнем (на нашых вачах прыходзяць сынкі і дочкі тых, хто быў у пачатку 80-х — 90-х апазіцыянерамі) прыстасоўвацца да «прафесійнага» змаганьня — а не падтрымліваць новых, сьвежых ідэй, асоб, структур… Разьяднанасьць — вось наш, творчай эліты, біч! Цынізм, недавер адзін да аднаго, канфармізм паўзучы. Пры гэтым яшчэ сродкі масавай інфармацыі, пасьля 18 год апрацоўкі сьпецслужбамі рэжыму, — ня тыя! Што ж рабіць???

— Адзіночкі, малыя групы творчых асоб на свае сродкі!

А асьвятляць — найперш праз замежныя СМІ!



*Студэнт тэатральна-мастацкага інстытута Алесь Пушкін падчас студэнцкага шэсьця, прымеркаванага да ўгодкаў абвяшчэньня БНР. Мінск, 25.03.1989.*

*Еўрарадыё: «Гэта было 25-га апоўдні. Я падрыхтаваў 12 плакатаў. І ўпершыню іх выставіў. Я выйшаў на вуліцу абвешаны плакатамі і яшчэ сябры, каля 200 студэнтаў. Мы рушылі да ГУМу па прасьпекце. Быў затрыманы і прыгавораны да 2 гадоў умоўнага пазбаўленьня волі. Але быў такі дэмакратычны час, што я скончыў інстытут, адбываў пакараньне і вучыўся на 4-м і 5-м курсах».*






*Алесь Пушкін зь сябрамі і паплечнікамі на ганку будынка гарадскога суда, 14.06.1989, vytoki.net*





*Перформанс, зладжаны мастаком каля адміністрацыі прэзыдэнта ў 5-ю гадавіну абраньня А. Лукашэнкі кіраўніком краіны, затрыманьне Алеся Пушкіна. 21.07.1999.*



*Малебен да дня нараджэньня арганізатара і кіраўніка антыкамуністычнага мядзельска-смаргонскага падпольля 1948–50 гг. Расьціслава Лапіцкага. Смаргонь, 02.09.2012.*



*Мастакі Алесь Пушкін, Генадзь Драздоў, Валянцін Варанішча і актывіст Уладзь Шульжыцкі замовілі малебен па Расьціславу Лапіцкаму ў праваслаўнай царкве, пасьля чаго з партрэтамі Лапіцкага ўласнага выкананьня прайшлі па горадзе і зладзілі выставу. Смаргонь, 02.09.2012.*




*У Смаргонскім судзе: актывіст Уладзімер Шульжыцкі,*
*мастак Валянцін Варанішча, Генадзь Драздоў, Алесь Пушкін, 2012 год.*
*Фота Радыё Свабода.*




*Пасьля адбыцьця 10-суткавага арышту Алеся Пушкіна сустракалі сябры з кветкамі, сьпевамі, пірагом і кляновым восеньскім вянком. Смаргонь, 03.10.2012. Фота Радыё Свабода.*




*Алесь Пушкін дэманструе сябрам турэмныя малюнкі, зробленыя фламастарамі
і алоўкамі ў звычайным вучнёўскім альбоме. Смаргонь, 03.10.2012. Фота сайта БХД*




*Падаваць касацыйную скаргу ў Вярхоўны Суд Алесь Пушкін таксама прыйшоў з партрэтам Расьціслава Лапіцкага, за што праз месяц ізноў быў затрыманы і пакараны 12 суткамі адміністрацыйнага арышту. Мінск, 04.11.2012. Фота Радыё Свабода.*






*Алесь Пушкін лічыць дэмантаж помніка Леніну ў Смаргоні станоўчым вынікам праведзеных ім мастацкіх акцый, засталося дачакацца вуліцы, названай у гонар Расьціслава Лапіцкага. 18.04.2019.*

# СУДЗІМАСЬЦІ І ПЕРФОРМАНСЫ АЛЕСЯ ПУШКІНА

Вось ужо на працягу больш як 30 год дзяржава перасьледуе і карае мастака за іншадумства і сьвядомую беларускую пазыцыю… Зачыняліся падрыхтаваныя і разьвешаныя ў розных гарадах і залах персанальныя выставы (6 чэрвеня 1991 г. — у залах Гродзенскага гісторыка-культурнага музэя-запаведніка — з-за цэнзуры абкама КПСС, а ў 1995 г. — у Віцебскай філармоніі), здымаліся з вытворчасьці дэкарацыі да тэатральнай пастаноўкі «Палкоўніку ніхто ня піша» па Г. Маркесу (Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Я. Коласа, Віцебск, травень 1998 г.), з выставы «ПАГОНЯ-2001» здымаліся чыноўнікамі Міністэрства культуры і тагачасным кіраўніцтвам Саюза мастакоў партрэты серыі «Беларускі Рэзыстанс», зачыняліся пленэрныя выставы ў Верхнядзьвінску (2005) і Новалукомлі (1999), у Віцебскім цэнтры сучаснага мастацтва (сьнежань 2005 г. — Першая пасьляпленэровая выстава памяці Васіля Быкава), ня змог выставіць нідзе ў Беларусі, апрача як на тэрыторыі ўкраінскай амбасады, выставу «Білорусы з Україною в серці» — па выніках пленэру ў зоне АТА ў лістападзе 2014 г., зьнішчаліся і тапталіся карціны дзяржаўнымі чыноўнікамі (старшынёй Бобрскага сельсавета Загорскім У. А. у 2014 г. — на выставе на цэнтральнай плошчы мястэчка Бобр), зафарбоўвалі і спальвалі фрэскі, мной напісаныя, у царкве і касьцёле (2000 г. — Магілёўскі катэдральны касьцёл, 2011 г. — Бобрская царква)…

**АЛЕ НАЙБОЛЬШ СУДЗІЛІ ЗА ПЕРФОРМАНСЫ:**

**1989 год** — Мінскі гарадскі суд, судзьдзя Чамрукоў А. прысудзіў 2 гады ўмоўна зь пяцігадовым паражэньнем у правах за хэпенінг — сьвяткаваньне 71-й гадавіны Беларускай Народнай Рэспублікі.

**1999 год** — суд Ленінскага раёна г. Мінска, судзьдзя Хрыпач С. Ф. прысудзіў ізноў 2 гады ўмоўна за перформанс «ПАДАРУНАК ПРЭЗЫДЭНТУ» з тачкай гною для ўзурпатара вышэйшай дзяржаўнай улады — А. Лукашэнкі. Характарызавалася гэта як «злоснае хуліганства з асаблівым цынізмам».

**7 верасьня 2001 году** — Крупская раённая адміністрацыйная камісія па артыкуле 172 ч. 3 КаАП РБ прысудзіла мне штраф у памеры 37 500 р. — за тое, што раздаваў супраць абраньня А. Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах 2001 года розныя налепкі-самаклейкі местачковым бобрскім дзецям.

**8 ліпеня 2002 году** — суд Маскоўскага раёна г. Мінска, судзьдзя Надзея Равуцкая прысудзіла па артыкуле 166 КаАП РБ штраф у 1 базавую велічыню за перформанс «Soldier of Fortune» на пл. Незалежнасьці (Леніна) у Мінску.

**21 сакавіка 2006 году** — суд Крупскага раёна, судзьдзя Хома Вольга Васільеўна па артыкуле 156 КаАП РБ прысудзіла арышт 3 сутак і 1 базавую велічыню штрафу, каб не натварыў

чагосьці падчас чарговых выбараў 2006 года на Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь.

**12 верасьня 2007 году** — суд Аршанскага раёна і г. Оршы, судзьдзя Рыбакова Тацьцяна Аляксандраўна па артыкуле 17 ч. 1 КаАП РБ прысудзіла да 7 сутак арышту — за пратэст супраць разгону міліцыяй фестывалю бардаўскай песьні на Крапіўным полі пад Воршай, дзе была здабыта гістарычная перамога над маскалямі 8 верасьня 1514 году.

**3 траўня 2008 году** — суд Крупскага раёна, судзьдзя Сіз Аляксандр Мікалаевіч па артыкуле 23.34 ч. 1 і арт. 23.4 КаАП РБ прысудзіў штраф 25 базавых велічынь (400 USD) — за тое, што выставіў 5 шпакоўняў і сьцягі (нацыянальны бел-чырвона-белы і Эўразьвязу) на цэнтральным пляцы мястэчка Бобр у гонар сьвяткаваньня 90-годзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі.

**9 сьнежня 2010 году** — суд Крупскага раёна, ізноў судзьдзя Хома Вольга Васільеўна, па артыкулах 17 ч. 1 і 23 ч. 4 КаАП РБ прысудзіла бязьвінна, па сфабрыкаванай адміністрацыйнай справе аб хуліганстве 13 сутак арышту, каб не натварыў чагосьці на чарговых выбарах А. Лукашэнкі на прэзыдэнта.

**24 верасьня 2012 году** — судзьдзя — старшыня Смаргонскага раённага суда Пятрова Людміла Рыгораўна, па арт. 23.34 ч. 2 і арт. 23.4 КаАП РБ прысудзіла 10 сутак арышту за шэсьце з партрэтам нявінна расстралянага 28.10.1950 у Маладэчне 21-гадовага беларускага патрыёта Расьціслава Лапіцкага.

**5 сьнежня 2012 году** — судзьдзя Ленінскага раённага суда г. Мінска Запасьнік Марына Сьвятаславаўна па арт. 23.34 КаАП РБ прысудзіла да 12 сутак арышту за тое, што падаваў скаргу ў Вярхоўны Суд РБ з партрэтам нявінна расстралянага 28.10.1950 у Маладэчне 21-гадовага беларускага патрыёта Расьціслава Лапіцкага.

**30 кастрычніка 2017 году** — судзьдзя Крупскага раённага суда Вусік Натальля Анатольеўна прысудзіла штраф 5 базавых велічынь (115 рублёў, або 57 USD) па арт. 23.34 ч. 1 КаАП за тое, што 1 верасьня 2017 году са сваім трынаццацігадовым сынам Міколкам браў удзел у шэсьці па Слуцку з партрэтамі Слуцкіх герояў паўстаньня 1920 году і нёс плакат на Дні Ведаў — Уроку Гісторыі: «НЕ ДАПУСЬЦІМ, КАБ БЕЛАРУСЬ УЦЯГНУЛІ Ў ЧУЖЫЯ ВОЙНЫ».

**1 лістапада 2017 году** яшчэ судзілі ў Слуцку (начальнік Слуцкага РАУС палкоўнік Герэга прысудзіў штраф — 1 базавую велічыню, ці 12 USD).

**10 чэрвеня 2019 году** — судзьдзя Крупскага раённага суда Саттарава Алена асудзіла мяне па артыкулах 23.34 і 23.4 КаАП і пакарала штрафам 204 рублі (100 USD) за перформанс «ВЕТЛІВЫ ЗЯЛЁНЫ ЧАЛАВЕЧАК — СУПРАЦЬ РАСЕЙСКАЙ АГРЭСІІ І ХАМСТВА», які я зрабіў у абарону суверэнітэту Беларусі і беларускай мовы на ганку Крупскага аддзяленьня гандлёвай сеткі «ЕВРООПТ» а 16-й гадзіне 6 чэрвеня 2019 году.

# РЫЦАР САМОТЫ НА ЎСХОДНЯЙ МЯЖЫ

2 верасьня 2012 году вядомы ў Беларусі мастак Алесь Пушкін разам з мастакамі Алесем Цыркуновым, Генадзем Драздовым і Валянцінам Варанішчам у Смаргонях правялі перформанс. Мастацкая акцыя была праведзеная ў гонар дня нараджэньня героя антысавецкага супраціву Расьціслава Лапіцкага. Мастакі зрабілі выставу сваіх карцін у парку, пабылі на малебне па нявінна забітым Расьціславе, а затым прайшліся з гэтымі карцінамі ў руках па вуліцах Смаргоняў, раздаючы па дарозе жыхарам гораду буклеты з інфармацыяй пра адважнага юнака. Расьціслаў Лапіцкі ў канцы 40-х гадоў арганізаваў у горадзе антысавецкае вучнёўскае падпольле. Яго выкрылі, арыштавалі, асудзілі і 28 кастрычніка 1950 году расстралялі пад Вілейкай.

Перформанс быў выкліканы жаданьнем мастакоў нагадаць беларусам пра сапраўдных народных герояў, якія змагаліся супраць таталітарнага сталінскага рэжыму і памяць пра якіх цяперашнія ўлады працягваюць сьвядома замоўчваць.

Неўзабаве ўдзельнікаў перформансу затрымала смаргонская міліцыя. Іх завезьлі ў райаддзел, склалі пратаколы за правядзеньне «несанкцыянаванага шэсьця» і пакінулі на ноч у турме. Пратэстуючы, мастакі абвясьцілі галадоўку. Саўдзельнікаў Алеся Пушкіна «ў злачынствах» асудзілі да штрафаў, а яму 23 верасьня далі дзесяць сутак зьняволеньня. Так мастак Алесь Пушкін патрапіў у смаргонскую турму. Там жа за кратамі апынуліся партрэт Расьціслава Лапіцкага і стары абраз «Пошук загінулых», зь якімі мастак хадзіў па Смаргонях.

Для вопытнага і абазнанага перформера, якім ёсьць Алесь, зьняволеньне было натуральным і неабходным працягам перформансу. Такім чынам, апынуўшыся ў смаргонскай турме праз шэсьцьдзесят зь лішкам гадоў пасьля свайго героя, ахвяры камуністычнага тэрору, Алесь Пушкін навязаў духоўную сувязь паміж лёсам 22-гадовага беларускага хлопца, замучанага за Беларусь, і сваім уласным лёсам, а таксама правёў недвухсэнсоўнае параўнаньне паміж крывавым сталінскім рэжымам і цяперашняй аўтарытарнай беларускай уладай, нецярпімай да іншадумцаў.

Мастак спачатку хадзіў па вуліцах Смаргоняў шляхамі Расьціслава Лапіцкага, дзе той па начох некалі расклейваў улёткі, крытыкуючы «салодкае» калгаснае жыцьцё, а потым супакутаваў за кратамі, суперажываў і спачуваў таму, хто, у адрозьненьне ад яго, ужо ніколі ня ўбачыў волі.

Перформансы Алеся Пушкіна заўсёды ўражвалі сэнсавай прадуманасьцю, шчырасьцю задумы і нечаканасьцю мастацкага ўвасабленьня. Я бачыў ягоны першы зь вядомых перформанс 25 сакавіка 1989 году на ўгодкі БНР. Мяне ўразіў ня столькі Алесь — як вол у ярме, абвешаны плакатамі з рэвалюцыйнымі на той час лозунгамі: «Хопіць сацыялістычнай,

адродзім народную Беларусь!», колькі запомнілася ягонае акаленьне — маладзенькія дзяўчаткі, апранутыя ў белыя шлюбныя сукенкі з папяровымі крыламі. Незабывальная карціна: Алесь — змагар і бунтар з ног да галавы, потны і ўскудлачаны, які ледзь ногі перастаўляў пад нягнуткай кардоннай бранёю сваіх плакатаў і штосьці адначасова цытаваў з лозунгаў, напісаных на іх. І бялюткія нявінныя анёлкі ці не з паветранымі шарыкамі ў руках, якія моўчкі віліся вакол яго, як матылькі. Хутка зьявілася міліцыя, анёлкаў садзьмулі, Алесю заламалі рукі, плакаты пад слабы дзявочы енк, як крылы млына, паляцелі ў розныя бакі. Гэта было моцна!

За тое сьвяткаваньне гадавіны абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі Алесь атрымаў два гады ўмоўна зь пяцігадовым выпрабавальным тэрмінам. Ад рэальнай турмы выратавала яго служба ў Афганістане. Савецкія ўлады «афганцаў» тады шанавалі і за проста так не адпраўлялі ў зьняволеньне.

Я ніколі не забудуся на карціну-перформанс, якую Алесь выставіў праз тры месяцы на першым зьезьдзе Беларускага Народнага Фронту, які праходзіў у чэрвені 1989 году ў Вільні. Гэта быў бел-чырвона-белы сьцяг з чырвонай паласой, намаляванай крывёй мастака. Кроў на паветры пабурэла, парудзела і не была такой цёмна-вішнёвай, як адпачатку, калі мастак нацадзіў яе са сваёй жылы ў шклянку. І як жа гэтая карціна адпавядала нашым тагачасным жаданьням і пачуцьцям! Мы былі гатовыя бяз роздуму й без развагаў аддаць што там шклянку — усю сваю кроў за Беларусь! Такія былі часы і такі быў Алесь Пушкін.

А потым посткамуністы ўзялі рэванш. І 21 ліпеня 1999 году Алесь Пушкін зьдзейсьніў свой чарговы палітычны перформанс. Сьвяточна апрануты ў вышыванку і камізэльку, у чорных джынсах і белых красоўках, з доўгімі валасамі, падабранымі васільковым вянком, мастак прыкаціў да адміністрацыі прэзідэнта пафарбаваную на чырвона калымажку каровінага гною, на якім ляжаў перадвыбарчы плакат Лукашэнкі 1994 году «Аляксандр Лукашэнка з народам» і чырвона-зялёны сьцяг. Мастак вываліў гной насупраць галоўнага ўваходу ў адміністрацыю прэзідэнта і прыбіў да гною сахаром плакат з надпісам: «За пяцігадовую плённую працу!».

У выніку праз тры месяцы Алесь Пушкін быў асуджаны за «злоснае хуліганства» на два гады зьняволеньня з адтэрміноўкай на два гады. Гэтыя гады Алесь адседжваўся ў сваёй хаце, у родным мястэчку Бобр, дзе маляваў карціны і выношваў планы наступных перформансаў, пра кожны зь якіх можна напісаць зьмястоўны тэкст.

Падаецца, што менавіта беларускія местачковыя краявіды, местачковы побыт, адрозны, з аднаго боку, ад прыземленага побыту глухой вёскі, а з другога — ад індустрыяльнага бяздушнага гораду, сфармавалі эстэтычныя густы мастака, якія базуюцца на высокай еўрапейскай культуры і адначасна глыбока ўкаранёныя ў беларускую зямлю.

Некалі пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай Бобр, меўшы на той час магдэбургскае права, стаў памежным мястэчкам. На ўсход ужо ляжала Расійская імперыя, а на захад жыло апошнімі залатымі гадамі страшна параненае, распалавіненае царыцай Кацярынай Вялікае Княства Літоўскае, цяжарнае дэмакратычнымі ідэямі асьветніцтва, першай Канстытуцыяй і нянавісьцю да расійскага абсалютызму. Вось жа такім апошнім старадаўнім рыцарам Бабра, усёй беларушчыны на ўсходнім рубяжы перад хцівым і драпежным «рускім мірам» і застаецца ў мастацтве і ў жыцьці Алесь Пушкін.

Не скажу, што ўсе ягоныя погляды пасьпяваюць за сучаснасьцю, і заходнія каштоўнасьці, якія зацята бароніць Алесь Пушкін, за апошнія дзьвесьце пяцьдзясят гадоў істотна зьмяніліся. Эстэтыка мястэчка дыктуе свой пэўны кансерватызм. І мастак за сваю непаваротлівасьць, прымхі і забабоны атрымлівае ад сучасьнікаў справядлівую жменю папрокаў. Пэўна што ён не заўсёды пасьпявае за трэндамі сучаснага імклівага жыцьця. Рукой у жалезнай пальчатцы, якая трымае вобразны мастацкі меч, цяжка намацаць гузікі сотавага тэлефона і выйсьці ў інтэрнэт. Уся ўвага мастака прыкутая да ўсходняй мяжы, адкуль стагодзьдзямі ў бок Беларусі патыхае холадам сьмерці. Мастак выдатна разумее, што «рускі мір» і беларуская культура несумяшчальныя. Там, дзе жыве адно, няма месца для другога.

Менавіта ў такіх катэгорыях задумваўся і праводзіўся перформанс памяці Расьціслава Лапіцкага, расповедам пра які я і пачынаў гэты тэкст.

Але і яго б не было, калі б не нечаканы нюанс, які адбыўся падчас дзесяцідзённай адседкі Алеся Пушкіна ў смаргонскім арышце. Ніколі ня ведаеш, дзе згубіш, а дзе знойдзеш. Здарылася так, што смаргонскі праваабаронца, вясновец Алесь Дзергачоў перадаў мастаку школьны альбом для маляваньня, алоўкі і фламастары. І, што рэдка здараецца, ахоўнікі прапусьцілі гэтую «зброю» мастака незвычайнаму арыштанту. У выніку празь дзесяць сутак зьняволеньня і галадоўкі Алесь Пушкін выйшаў на волю з цэльным творам — альбомам, запоўненым малюнкамі і тэкстамі. Такім чынам у беларускай культуры зьявіўся мастацкі «турэмны альбом». Прыкладна ў гэты ж час у беларускіх турмах у Наваполацку, Шклове, Магілёве, Віцебску і Бабруйску іншыя палітвязьні ў сваіх тэкстах імкнуліся занатаваць нашую суровую рэчаіснасьць, захаваць моманты трагічнай барацьбы дабра са злом. Але ж ніхто, апрача Алеся Пушкіна, ня здолеў зрабіць гэта ў малюнках, у чым і заключаецца ўнікальнасьць і арыгінальнасьць гэтага альбому.

Цікава разглядаць альбомныя бачыны. Падаецца, што там ёсьць усё, што можа займаць увагу чалавека, які пасьля актыўнай мастацкай акцыі, пасьля насычанага пахамі і фарбамі сьвету трапляе ў замкнёную прастору, за краты, дзе спыняецца жыцьцё і час пачынае ісьці так павольна, што, здаецца, яго можна памацаць рукой.

Там амаль фатаграфічна намаляваная халодная камера № 3, дзе сядзіць мастак, і малюнак турмы звонку, і выводныя дворыкі, і праваслаўны сьвятар айцец Анатоль, які праводзіў службу за бязьвінна загінулых. Ахвярныя і гераічныя матывы малюнкаў, на якіх намаляваны і сам мастак, які сьвяточна крочыць з партрэтам Расьціслава Лапіцкага з лозунгам «За Беларусь», і праект манумента на месцы бітвы пад Воршай у выглядзе праваслаўнага крыжа з сонмам беларускага войска, і праект помніка Расьціславу Лапіцкаму з друкаркаю ў руках і ўлёткамі, якія лятуць у вышыню. Яны перамяжоўваюцца з малюнкам іншага кшталту: сілуэты аголеных дзяўчатаў акаляюць галаву мастака ў лаўровым вянку. Дзяўчаты зьвяртаюцца да мастака: «Love!» А сам малюнак падпісаны наступным чынам: «Мары пра славу і жанчын».

На іншым малюнку, падпісаным: «Lenin — go home!», намаляваны смаргонскі помнік Леніну, які сьцягваюць з пастамента. Мастак дапісаў таксама: «Пара, пара прагнаць Леніна зь Беларусі… Ужо ж больш за два дзесяцігодзьдзі Беларусь — незалежная дзяржава! Трэба сваіх герояў ставіць! Пазбавімся ад яго — пазбавімся і ад лукашызму!»

У думках мастака і, адпаведна, на малюнках усплываюць вобразы Вільні і Варшавы, краявіды Швецыі і Нарвегіі. Мастак замалёўвае сябе і сваіх родных, падпісваючы малюнак: «Я сьплю і сьню сон, як мяне кахаюць».

Краявід моста і ракі суправаджаюцца наступным дзёньнікавым лірычным запісам: «Дзень дзявяты. Раніцай была навальніца, грымеў гром… Так дзіўна: у кастрычніку — і навальніца! І я ў турэмнае закратаванае вакно першы раз у жыцьці пачуў гром, навальніцу восеньскую… Успомніўся выраз: рабінавая ноч… Успомніўся Ўладзімір Караткевіч — як добра, што ён і пра маю раку Бобр, мост пакінуў апісаньне ў рамане “Нельга забыць!”».

І яшчэ аднаго беларускага паэта згадвае Алесь Пушкін: «Успомніўся геніяльны беларускі паэта Анатоль Сыс. Як я ўдзячны лёсу і Богу, што ведаў яго…» Алесь малюе па памяці накід партрэта Анатоля Сыса і цытуе ягоны верш:

*Я думаў,*
*вершы мае відушчыя,*
*аж пакуль не асьлепнуў сам*
*ад маланкі, самім жа пушчанай,*
*я гарэў, як бязбожны храм…*

Галаданьне непазьбежна прыводзіць да трызьненьняў пра ежу. Зьяўляюцца і такія малюнкі, падпісаныя: «Стравы, пра якія мару». А там і крывянка, тушаная ў печы, і курачка, тушаная ў печы з бульбай, і калдуны, і смажаная свойская каўбаса з цыбуляй… усяго не пералічыць.

Галадаваньне ліхаманіць мозг і абвастрае разумовы працэс. Мастак разам з малюнкамі запісвае свае новыя ідэі, між іншага — «ідэя ладзіць плэнэры Лапіцкага, пакуль не даб’емся належнага ўшанаваньня памяці ахвяр палітычных рэпрэсій нашай роднай Беларусі». Ён занатоўвае свой уласны творчы маніфест і называе яго «Арт-сацьяграха». Пэўна, што думкі, выкладзеныя ў маніфесце, былі асэнсаваныя Алесем Пушкіным раней. Але вось зараз, у смаргонскай турме яны афармляюцца ў першыя тэзісы тэксту: «Ёсьць, ёсьць выхад зь няпростай сітуацыі ў Беларусі, якая склалася за 18 год кіраваньня рэжыму Лукашэнкі! Гэта — чыннае, адраджэнскае, культурнае змаганьне пасіянарыяў, хто не задаволены склаўшайся задушлівай, антыбеларускай, неасавецкай, каланіяльнай ад Расеі палітыкай, якую жорстка і мэтанакіравана, пасьлядоўна праводзіць пануючы на Беларусі рэжым…»

Такім чынам, альбом аказаўся ўнікальным суплётам малюнкаў, мастацкіх задумаў, дзёньнікавых нататак, успамінаў і накіду творчага маніфесту Алеся Пушкіна.

Смаргонскі турэмны альбом Алеся Пушкіна быў бы няпоўным бязь зьместу яшчэ аднаго сшытка мастака. Акцыяй у Смаргонях перформанс, прысьвечаны памяці Расьціслава Лапіцкага, ня скончыўся. 4 сьнежня 2012 году Алесь Пушкін працягнуў яго ўжо ў Менску. З партрэтам Расьціслава Лапіцкага ў руках, ён публічна занёс скаргу на рашэньне Смаргонскага раённага суда аб сваім зьняволеньні. Гэтага хапіла, каб зараз ужо менскія міліцыянты склалі на мастака чарговы пратакол аб правядзеньні несанкцыянаванага пікету. У выніку Алесь Пушкін быў асуджаны судзьдзёй Ленінскага раёна г. Мінска Запасьнік М. С. на дванаццаць сутак арышту.

Вось яшчэ ў адным праклятым месцы мастаку было дазволена маляваць. І гэта быў менскі сьпецпрыёмнік для арыштантаў на вуліцы Акрэсьціна. Мастак ізноў галадаваў. Фламастараў у яго там ужо не было, і Алесь намаляваў не-

калькі малюнкаў звычайнай асадкаю. Так, яму пашанцавала больш, чым вялікаму паэту Уладзіміру Някляеву, якому падчас арышту не дазволілі трымаць у камеры ані асадкі, ані паперы і заклеілі, такім чынам, паэту рот.

Акрэсьцінскі цыкл малюнкаў Алеся Пушкіна, разам зь дзёньнікавымі запісамі, мы таксама ўключылі ў ягоны турэмны мастацкі альбом. У акрэсьцінскім дзёньніку Алесь піша: «За час зьняволеньня прыйшло ўсьвядомленьне, што асоба Р. Лапіцкага, памяць бязьвінна рэпрэсаваных вельмі раздражняе цяперашнюю ўладу… Значыць, у гэтым чыне — стаяньні за ўмацаваньне памяці рэпрэсаваных патрыётаў Беларусі — ёсьць Справядлівасьць і глыбіня!»

Чыннае стаяньне мастака і беларускага Грамадзяніна Алеся Пушкіна працягваецца. Усё ягонае жыцьцё — сьведчаньнем гэтаму. А турэмны альбом мастака — высокі па сваім гучаньні дакумент эпохі, у якой мы жывем.

Алесь Бяляцкі.

БЕЛАРУСКАЕ ТУРЭМНАЕ МАСТАЦТВА

**У серыі**
**«Беларуская турэмная літаратура»**
**выйшлі кнігі:**

1. Зміцер Дрозд. **Бунт батанікаў.** Дзённік. 2017
2. Ігар Аліневіч. **Еду ў Магадан.** Успаміны, артыкулы. 2017
3. Мікола Дзядок. **Фарбы паралельнага свету.** 2017
4. Алесь Кіркевіч. **Сем месяцаў у беларускай турме.** 2018
5. Алесь Бяляцкі. **Турэмныя сшыткі.** 2018
6. Павел Севярынец. **Каменнае сэрца.** 2018
7. Алесь Пушкін. **Турэмны альбом.** 2019

БЕЛАРУСКАЕ ТУРЭМНАЕ МАСТАЦТВА

**Серыя**
**«Беларуская турэмная літаратура»**

Алесь Пушкін.
**Турэмны альбом**

18+

Рэдактар:
**Алена Лапцёнак**

Вёрстка:
**Віктар Корзун**

Вокладка:
**Віктар Корзун**

Карэктар:
**Алена Укусік**

Наклад 500 ас.

«Алесь Пушкін мастак, але пры іншых варунках мог бы стаць актарам —
каб потым выбіцца ў рэжысёры і быць на сцэне гаспадаром, а не выканаўцам
чужой волі. Пэўна, выяўленчае мастацтва прывабіла яго якраз высокай ступеньню
самадастатковасьці. У адрозьненьне ад кіно і сцэны, дзе твор —
вынік калектыўнай працы і, як правіла, безумоўнага падпарадкоўваньня
“дырыжору”, жывапісец сам сабе і драматург, і рэжысёр, і актор.
А цяпер яшчэ і менеджэр. Гэта цяжка, але свабода заўжды дорага каштуе. <...>

Ён марыць пра той час, калі ягоныя жорсткія перформансы ды іншыя творы
з выразным сацыяльным, нацыянальна-вызваленчым зьместам стануць
непатрэбнымі, калі ў Беларусі ўсё найлепшым чынам усталюецца,
і будзем мы грамадзянамі звычайнай краіны. Словы Пушкіна:
“Я хачу, каб мяне ведалі як мастака, які расьпісвае храмы”, —
вельмі беларуская мара. Шмат хто сёньня хацеў бы не змагацца за Незалежнасьць,
за выжываньне, а проста жыць і спакойна рабіць сваю справу.»

*Пётра Васілеўскі «Прасьпект Пушкіна»*

БЕЛАРУСКАЕ
ТУРЭМНАЕ
МАСТАЦТВА

БЕЛАРУСКАЯ
ТУРЭМНАЯ
ЛІТАРАТУРА